Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 41 (92). | Вільня, Субота 14 Траўня 1927 г. | Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Угодкі „маральнай санацыі".

У леташнім годзе гэтымі днямі траўня месяца ў Польшчы здарылася нешта надзвычайнае. У гэтыя дні першы маршалак Польшчы Язэп Пілсудскі падняў вайсковае паўстаньне, каб скінуць здэмаралізаваны рэакцыйны ўрад і стварыць новы ўрад „маральнай санацыі", ці прасьцей кажучы „маральнай направы". Дэмакратычная частка Палякаў тагды спадзявалася, што тая жаўнерская кроў, якая была праліта на вуліцах Варшавы не загіне бяз знаку, толькі мы, Беларусы, адносіліся да гэтага бяз ніякага захопленьня, добра ведаючы, што ці то Пілсудскі, ці Вітас, ці якая іншая асоба кіруючая польскаю дзяржаваю, адналькава будзе правіць сваю палітыку і кіраваць абставіны на палянізацыю Беларусаў. Дзеля гэтага самага, мы ня верылі ў направу нашага жыцьця, бо ня відзелі на гэта на'т маленькага жаданьня ў тых людзей, якія ўзялі ўладу маральнай санацыі. Мы, Беларусы, да маёвага перавароту занялі нэйтральную пазыцыю, толькі казённы Беларус Паўлюкевіч пяяў хвалебныя гімны новаму ўраду.

Калі-ж мы праявілі нэйтральнасьць, дык затое, новы польскі ўрад у асобе тагочаснага прэм'ера п. Бартля, ня ведама дзеля якіх прычынаў, зьвярнуўся да беларускіх сялянскіх паслоў з прапановаю: выставіць ураду жаданьні Беларускага Народу. Лепш што-колечы як нічога. Беларускі Пасольскі Клюб выставіў п. Бартлю самыя скромныя жаданьні, якія пашлі недзе на дно нейкага ўрадавага мора як камень, бо дагэтуль на'т адзін пункт нашых жаданьняў ня быў належна трактаваны і гэтакім бязчынам польскага ўраду маральнай направы—пайшоў дарогаю папярэдняга ўраду дэмаральнага няладу.

Мала таго, што зямельная рэформа далей праводзіцца з мэтаю калёнізацыі нашага краю, мала таго, што школьная палітыка асталася на пункце „даваць і не пушчаць", мала таго, што па далейшаму асталіся ўрадаваць над намі прышлыя элемэнты, мала таго, што мы ня маем законнага самаўраду,—новы ўрад пасьля васьмімесячнага ўрадаваньня зламаў канстытуцыю, асноўныя законы сваей дзяржавы і арыштаваў беларускіх паслоў.

Калі ўзяць пад увагу нацыянальнае пытаньне, дык ясна стане, што ў гэтым ніякай запраўднай маральнай санацыі не адбылося. А калі гэтак, дык дзе яна і ў чым рэклямаваная маральная санацыя прыкметна?!

Можа з агульна-дзяржаўнага відовішча мы ўгледзім нешта запраўднае, падобнае на направу?

Пераходзячы да разгляду гэтага пытаньня, мусім адзначыць, што і тут нічога не зьмянілася. Сяму-таму з урадоўцаў і вайсковых падвышана пэнсыя і падвышаны як пасярэднія (рожныя акцызы) гэтак сама і беспасярэднія падаткі (напр. грунтовы падатак).

Дзеля гэтага самага ўсё падаражэла, а праца работніка асталася на тым самым роўні, бо лік безработных не паменшыўся. Дзеля павышэньня заработнае платы работнікі правялі некалькі, хоць і невялікіх, забастовак.

Пасьлямаёвы ўрад „маральнай санацыі" ставіць сабе як заслугу ўтрыманьне „цьвёрдага" парытэту польскіх грошай. І праўда, у працягу году польскі злоты нек утрымаўся ад спадку, але-ж тут няёсьць заслуга ўраду, а таго ходу абставінаў сьвету, які дапамог ўраду. Першае, што паслужыла на карысьць польскаму ўраду, дык гэта забастоўка ангельскіх вуглякопаў.

Дзякуючы спыненьню работаў у ангельскіх капальнях вугля, зьявілася запатрэбаваньне на польскае вугальле, а гэта дало вялікі плюс польскай дзяржаве. Другое, што дапамагло польскаму „маральна-санацыйнаму" ураду стварыць ураўнаважаны гандлёвы баланс, гэта—вольны вываз збожа, але-ж, як адзначыў п. мін. Чэховіч, што благі ўраджай можа стварыць непажаданы гандлёвы баланс у некатарых месяцах, дый праўда, бо прыдзецца прывозіць хлеб з заграніцы. А знача, калі ўвосень вываз дапамог трымацца на пэўнай роўні польскаму злоту, дык васновы ўвоз якраз можа прыслужыцца ўжо на паніжэньне вартасьці злотага. Гэта разумее ўрад, дык і стараецца пазычыць грошай.

Калі цяпер кінем вокам на ўсё тое, што вышэй напісана, дык усходзячы з фактаў угледзім, што за год свайго істнаваньня ўрад „маральнай направы" нічога не направіў.

На заканчэньне хочацца сказаць некалькі словаў і аб палітычнай раўнавазе сучаснага ўраду. А калі гаварыць аб гэтым, дык трафным будзе калі адзначым, што палітычная раўнавага цягне не на карысьць самога ўраду, бо апазыцыйны фронт вельмі моцны і што раз дык павялічваецца арганізацыяй лагеру Вялікай Польшчы і іншых эндэцкіх арганізацыяў.

З прычыны гэтага моцна адчуваецца, што выбараў у сёлетнім годзе да Сойму і Сэнату ня будзе, а гэта сьведчыць, што правы народу ўрэзаны. Народ ня будзе мець права свабодна выказаць сваю волю і даручыць кіраваньне дзяржаваю таму, каго лічыць адпаведным.

Ст. Рубель.

## Першыя угодкі К. Сваяка.

„Ня пішу я для забавы,
Ні для бліхтру, ані славы,
Ні на сьмех табе, бязьверца, —
Пішу я, бо плача сэрца.
Сумна страшна думкі рвуцца,
У сіню даль, як рой нясуцца,
У ціхі гай, гдзе усенька чуе, —
На прыгон, дзе брат гаруе".

(*Мая ліра*). *К. Сваяк.*

Год таму назад 6 траўня абарвалася залатая нітка творчага жыцьця беларускага паэта кс. К. Стэповіча, які пісаў свае вершы пад псэўдонімам Казіміра Сваяка.

Год мінуў ад таго часу, калі яго вусны замоўклі, сэрца, якое плакала тугою і сумам аб нядолі Беларускага Народу і якое балела аб мілай роднай Беларусі—перастала біцца... Заспакоілася сэрца і думкі, якія рваліся ў сіню даль і як рой нясьліся на прыгон, дзе брат гаруе; пакінулі песьняра, пакінулі, каб разьліцца па ўсяму прастору роднай старонкі. Разьліцца можа дзеля таго, каб упасьці жыватворчаю кропелькаю на сэрца кожнаму Беларусу і каб абудзіць яго думкі, рвацца і тварыць тое, аб чым лятуцеў сам паэт пры сваім біолёгічным істнаваньні.

А калі гэтак, дык і ясна становіцца, што яго душа пасьля таго, калі яна пакінула кволае цела не загінула, а стала тым зборным пунктам дзе мы жывыя чэрпаем натхненьне да творчасьці і бадзёрнасьць да змаганьня. Дык вось ці ня гэта самае прывяло нас да яго магілкі і ці ня гэта самае змусіла нас мацней адчуць яго новае істнаваньне.

— — — — — — — — — — — —

7 г. траўня ў першыя ўгодкі сьмерці К. Сваяка ў касьцеле сьв. Мікалая, кс. пасол А. Станкевіч пры немалым сабраньні беларускага грамадзянства адправіў жалобнае набажэнства. Беларускі хор пад загадам гр. Карузы пяяў рэлігійныя песьні.

На другі дзень, г. зн. у нядзелю 8 траўня адбыліся адведзіны магілкі с. п. К. Сваяка на магільніку Росса. Прысутная беларуская моладзь інтэлігенцыя прапяяла некалькі рэлігійных і патрыотыч. песьняў, як: „Божа, што калісь народы", Божа збаўца наш", „Не пагаснуць зоркі ў небе", „Дзе чутны гукі нашай мовы" і інш. Гр. Каруза ў сваей прамове над магілаю без пары памёршага паэта, адзначыў яго заслугі перад Беларускім Народам і мэту, якая прывяла ўсіх сабраных да магілкі паэта, каб ушанаваць сваей прысутнасьцю.

Не забылі і другое баларускае магілкі, гэта магілы беларускага пісьменьніка Ан. Лявіцкага (Ядвігіна Ш.). Тут ізноў пяяліся тыя самыя песьні. А ў гэтых песьнях, каля тых эдавалася мёртвых магілаў, жывыя адчулі і дазналі гэтае ўражаньне, якое падвысіла настрої, падняло дух, падмацавала надзеі.

На тым-жа магільніку спачываюць прыяцелі Беларускага Народу, Паляк Т. Врублеў-

# З жыцьця пад Польшчай.

### Свае сварацца.

Пазнанскі ваявода граф Адольф Бнінскі, які як кандыдат ад буржуазных групіровак Сойму канкураваў у леташніх выбарах на прэзыдэнта, 29 красавіка г. г. выдаў адозву, якою заклікаў пазнанскае грамадзянства ў сьвятка-ваньні 3 мая не рабіць асобнае ад урадавае дэманстрацыі.

Ня гледзячы на гэта 3 мая ў Пазнані адбыліся дзьве дэманстрацыі ці ўрачыстасьці: адна, дзе бралі ўдзел урадоўцы, войска і спартыўна-вайсковыя аддзелы „Стральца“, а другая, дзе асобна эндэцкія (народныя) групіроўкі. Адным словам была ўрачыстасьць за Пілсудскага і проці Пілсудскага. Калі-ж ваяводзе Бнінскаму не ўдалося злагодзіць гэтых разыходжаньняў, дык ён падаўся ў адстаўку.

Але газэты падаюць інфармацыі, што адстаўка яго прынята ня будзе.

### Папяровы ратунак.

Дазволіўшы ўвосені вывясьці ўвесь хлеб за граніцу, цяпер, калі пачалі павышацца цэны на хлеб, польскі ўрад думае абараніцца ад хвалі дарагоўлі міністэрскімі распараджэньнямі.

Гэтымі днямі міністэрства ўнутраных справаў ужо разаслала ваяводам адно гэтакае распараджэньне, якім ваяводзкім уладам даручаецца мець нагляд за пякарнямі, каб пякарні выпякалі хлеб з 65 працантавай мукі і каб цэны хлеба прытасоўваліся да цаны гэтага гатунку мукі.

Дык вось, пакуль-што бачым толькі папяровы ратунак. Рэзультат яго ўгледзім ў хуткім часе, але цяпер ужо зафіксыруем, што цэны на хлеб павысіліся.

### Угодкі крывавых падзеяў.

Пан міністар унутраных справаў выдаў адозву, у якой заклікае ўсіх ваяводаў зьвярнуцца з просьбаю да духавенства, каб яно 13 г. траўня адправіла жалобнае набажэнства за душы тых, якія сталіся ахвярамі падчас леташніх маёвых „санацыйных“ выпадкаў.

### Асуд на сьмерць.

Надзвычайны суд у Лодзі вынес асуд на сьмерць Валашчука, абвінавачанага ў забойстве меставага прэзыдэнта Цынарскага.

Просьбу аб памілаваньні Валашчука п. прэзыдэнт адкінуў, дык знача, асуд выкананы.

Справу другога вінавачанага Рудзеўскага надзвычайны (даразны) суд перадае акружному суду на разгляд.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### У Кітайскім катле.

Згодна атрыманых у Бэрліне вестак, сьледам за Японіяй і Францыя таксама адмовіліся падтрырмоўваць ангельскую інтэрвэнцыйную палітыку ў Кітаі. Французскі ўрад паведаміў ангельскаму кабінэту аб тым, што ён падтрымоўваў-бы Англію, каб ня гледзячы на адмову Злучаных Штатаў Амэрыкі, Японія асталася салідарна з Англіяй. Гэтакім парадкам, цяпер толькі адзін Муссаліні падтрымоўвае ангельскую палітыку ў Кітаі.

Згодна вестак з Шанхаю ў раёнэ Чу-Матыена 125 міляў на паўночны-захад ад Ханькоў у гэты час ідуць жорсткія бойкі між вайскамі Чанг-Тсо-Ліна і ханькоўскімі арміямі.

Генэрал Фэнг напаў на Чанг-Тсо-Ліна з флангу, але-ж быццам першая атака яго Чанг-Тсо-Лінам адбіта.

### Нямеччына.

У Нямеччыне гэтымі днямі адбываўся зьезд нямецкае арганізацыі вядомай над назовам „Штальгэльм“. Пасьля зьезду адбылася вялікая дэманстранцыя ў часе якое здаралася перастрэлка з іншымі партыямі, пераважна камуністымі. Ахвяраў вялікіх ня было — ўсяго 2 цяжка і 7 чалавек лёгка ранена.

Каб абрысаваць абліча „Штальгэльму“ падаемо выпіскі з яго маніфэсту. „Штальгэльм“ не прызнае таго палажэньня, якое стварыў Вэрсальскі трактат і дзеля гэтага трэбуе адраджэньня нямецкае ваеннае сілы, адмены прымусовага прызнаньня віноўнасьці ў вайне і направы злыбяд прычыняных вайною на асновах салідарнай адказнасьці ўсіх народаў, вінаватых у сьвятовай вайне. Гэта па вонкавай палітыцы. У ўнутранай нямецкай палітыцы „Штальгэльм“ дамагаецца ўмацаваньня ўлады прэзыдэнта, гарантыі дабрабыту краю і народу, які часта ломіцца парляманцкімі камбінацыямі і выданьня гэтакага выбарнага закону, які запраўды адпавядае пажаданьню народу. Далей „Штальгэльм“ пратэстуе проці ідэі клясавае барацьбы і дамагаецца забароны чужацкім элемэнтам наплываць у Нямеччыну.

### Балканы.

Балканскія дзяржавы: Югаславія, Баўгарыя, Грэцыя, Румынія і Турцыя на канфэрэнцыі ў Бухарэшце начальнікаў палітычнае паліцыі гэтых дзяржаваў прыняла пастанову стварыць у Бухарэшце цэнтральнае бюро, якім будуць зьбірацца ўсе матэрыялы аб дзейнасьці камуністычнае партыі на Балканах, а таксама будуць апрацоўвацца пляны супольных змаганьняў з бальшавікамі.

У рожных мясцнвасьцях Югаславіі арыштавана многа бальшавіцкіх агентаў.

# Дэфэнзыўная праца.

У № 14 свайго „Беларускага Слова“ Паўлюкевіч зьмясьціў карэспандэнцыю, у якой піша, што быццам б. Грамадаўцы, а цяпер Сельсаюзчікі забралі таблічкі з поля, дзе былі пасеяны „Kółkiem Rolniczym“ штучныя гнаі.

Гэтая карэспандэнцыя яскрава сьведчыць, якую працу праводзіць Паўлюкевіч. Перадусім кідаецца ў вочы „добрае сужыцьцё“ Беларусаў з Палякамі ў вёсцы Селявічы, толькі няведама, скуль гэта ўзяліся там у беларускіх Селявічах Палякі?...

Далей відаць, паўлюкевічаўцу—шпіку ня мілыя Белькевічы, Каленкевічы і іншыя сяляне, калі ён гэтак „яскрава“ сьведчыць сваею дурною брахнёю.

Нарэшце, дык ужо, відаць, брахун забрахаўся зусім, бо пішучы аб прыхільнасьці сялян да Сялянскага Саюзу і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, тут-жа цьвердзіць, што гэтакіх гурткоў ня было, няма і ня будзе... „Понимаете-ли“ гэта-ж не лёгічна? Калі ёсьць у сялян прыхільнасьць да сваіх арганізацыяў, дык ці-ж не даволі для яе арганізатараў. Аднак-жа прыхільнасьцю сялян да сваей Паўлюкевічаўшчыны „Беларускае Слова“ пахваліцца ня можа. Відаць, што сяляне ўсё-ж такі ўжо сьвядомая маса і дзеля гэтага паўлюкевічаўскую дэфэнзыву вітаюць праклёнам і агідаю...

### „Понимаете-ли?“

Ад Квасавае карэспандэнцыі у № 35 „Сялянскае Нівы“ забойцы Банячкоўскаму, з калошы палянафіла-„бѣлорусса“ Паўлюкевіча, зрабілася квасна, дык і ня дзіва, што ён выпаліў гэтакія вось словы на шпальты Паўлюкевічанкі („Бел. Слова“ № 14): „Апошнім часам „Сял. Ніва“ атрымала надта цэнны падарак: карэспандэнта Кваса (псэўдонім),—ведамага кандыдата на канакрада“.

Аднак-жа ад кандыдата да запраўднага забойцы, якім ёсьць Баначкоўскі, яшчэ далёка, понимате-ли? Дык і той рогат, які скіраваны на Кваса, акурат ідзе па адрэсу забойцы Баначкоўскага—хронікера „Паўлюкевічанкі“.

### Для даносаў.

Займаючыся даносамі на беларускія ўстановы і арганізацыі, Паўлюкевіч паклапаціўся падсуседзіцца да кватэр беларускіх установаў. З гэтай мэтай Паўлюкевіч наняў сабе кватэру ў тым самым доме, дзе месьцяцца „Сял. Ніва“, і Беларускі Сялянскі Саюз, і думае ў нанятай кватэры пасадзіць свае арганізацыі: „Беларускую Хатку“, „Прасьвету“ і рэдакцыю—як экспозытуры дэфэнзывы.



# НАВІНЫ.

— **Беларускі Выбарчы Камітэт.** Беларускае грамадзянства м. Вільні сёлета маніцца прыняць удзел у выбарах у Меставую Раду. У сувязі з гэтым у аўторак 10-га мая адбылася зборка прадстаўнікоў віленскіх беларускіх арганізацыяў і паасобных дзеячоў, на якой была вызначана камісія з 3-х асоб дзеля аканчальнай арганізацыі Беларускага Выбарчага Камітэту і паразуменьня з іншымі нацыянальнасьцямі.

— **Суд над Беларусамі.** У сераду 4.V. г.г. распачаўся разгляд віленскім акружным судом справы 32 Беларусаў вінавачаных у прыналежнасьці да камуністычнае партыі Заходняе Беларусі і арганізацыі аружнага паўстаньня проці польскае дзяржаўнасьці.

Суд адбываўся пры закрытых дзьвярох пад старшынством п. Юдзевіча і ганаровага судзьдзі Ўмястоўскага.

Матэр'ялу абвінавачаньня сабралася аж 7 вялікіх томаў, дык ня дзіва, што разгляд яго заняў 5 дзён. Абвінавачываў падсудных падпракурор Кавэрскі, які падтрымоўваў абвінавачаньне дзьвегадзіннаю прамоваю.

І толькі а 8 гадзіне вечара 9 траўня пасьля доўгае нарады суд вынес пастанову, якою засудзіў: Яна Макоўскага на 12 гадоў, Браніслава Янцэвіча на 10 гадоў, Мікалая Юшку і Уладзімера Пушкарскага па 7 гадоў, Язэпа Клімку, Эдмунда Буську, Бернарда Нессена, Браніслава Калядзінскага, Базыля Рачынскага, Казімера Жэрка, Брунона Кубятоўскага і Міхала Сеньку па 6 гадоў кожнага, а таксама Паўла і Аляксандра Волчака па 4 гады кожнага. Усе вышэй паданыя асуджаны на цяжкі вастрог. Люцыян Волчак асуджаны на $1\frac{1}{2}$ году папраўчага вастрогу.

13 падсудных апраўдана.

Асуджаныя спаткалі асуд спакойна.

Да ўсіх асуджаных на цяжкі вастрог датасаны строгі арышт.

Асуджаным залічана на рахунак асуду ад 2 месяцаў да 3 гадоў вастрогу праседжанага да суду.

— **Выбары Меставай Рады.** Падгатоўка да новых выбараў распачнецца 20-га траўня і згодна з распараджэньнем аб выбарах у самаўрады 1919 г. працягнецца 31 дзень, дык знача выбары ў віленскую меставую раду адбудуцца 19 чэрвеня.

Выбары будуць каштаваць 30.000 злотых, якія ўпішуцца ў меставы бюджэт і будуць тым ці гэтым спосабам сысканы з віленскага жыхарства.

Грамадзянства м. Вільні ўжо пачало рыхтавацца да выбараў.

— **Благія зубы.** „Dziennik Wileński“ ніяк ня можа раскусіць беларускі гарэх. Відаць, што благія мае зубы, хоць язык на брахню, як авечы хвост верціцца, пускаючы розныя інсынуацыі па адрэсу беларускіх установаў.

Апошнімі часамі пачаў падаваць ілжывыя весткі, быццам Сялянскі Саюз і Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры арганізаваны Грамадою, а Грамада нелегальная, дык знача і Сялянскі Саюз ды Інстытут таксама падходзяць пад тую-ж самую рубрыку.

Нічога іншага, толькі сьмех могуць выклікаць гэтыя інсынуацыі, бо ўсім ведама, што Сялянскі Саюз арганізаваны раней за Грамаду і ніякае сувязі між імі ня было.

# Некалькі слоў слухача аб лекцыі.

7.V. 1927 г. чыталася лекцыя на тэму „Ідэал народнай культуры“. Гэтую лекцыю прачытаў п. Каруза. У словах поўных пераканаьня ў лепшую будучыну дарагой Беларусі выразіў ён сваю думку аб ідэале, да якога імкнуцца дзьве беларускія душы, будучыя ў сваей аснове адзінаю, але раздвоеныя дзякуючы векавым прымусовым чужацкім уплывам.

Каталіцкая і праваслаўная рэлігіі, якія прышлі да нас двумя дарогамі, упоеныя нам панучымі над намі, стварылі паміж намі недавер, разыходжаньні. Але, як даводзіў прэлегент, душа Беларуса будзіцца ад гэнага гіпнотызму і дарогаю ўдасканаленьня імкнецца да тае ідэальнай Вышэйш. Сілы, якой маліўся Крывіч за часаў Дажбога, які быў для яго добрым Панам, выслухоўваючым гора і радасьці.

Чэсьць-жа і падзяка прэлегенту п. Карузе за тыя шчырыя словы, прабудзіўшыя не ў адным сэрцы сваіх слухачоў добрыя думкі!

А.

# Да нас пішуць.

### Аб нашым жыцьці.

(в. Укля, Браслаўскага пав.)

Мне здаецца, што няма гэтакага куточку, куды-б не заглянулі ясныя касулькі беларускай сьведамасьці. Толькі ў адной Уклі няма, быццам яно дзесь за граніцаю, бо за ўвесь час ніхто ніколі ў шпальтах газэтаў ня відзеў ніякае вестачкі аб жыцьці Уклі і ніхто там да гэтых часоў ня чытае беларускае газэты.

Вёска Укля не малая, хат каля сотні, стаіць над возерам. Калі паглянуць з боку, дык можна падумаць, што тут і дужа добра жывецца. Але-ж сапраўды, дык і ў Уклі тое самае: і гора і нядоля. Галоўнай прычынай усяго гэтага, зьяўляецца малазямельле. Больш аб гэтым ня буду гаварыць, зазначу толькі, як гавора прыказка, што „чалавек галыш перасяляецца да вады і ў лес". Але-ж тут, дык зусім іначай выходзе, бо вадою-возерам і лесам уладае пан, ды з яго рукі арандатар.

Далей пагутарым, як нашыя людцы зарабляюць ад гэтых паноў.

Тое возера, якое ляжыць каля вёскі Уклі арэндуе Каган, які заўсёды патраціць вызыскаць нашага селяніна, бо бяда змушае даца на вызыск. Прыдзе зіма, трэба зарабіць які грош і вось мусіць чалавек ісьці да арэндатара ў рыбакі.

Яшчэ з самае восені пачынаецца прадажа сваей працы арэндатару, тады, калі ўжо распачнецца рыбалоўства, ды хадзі дзень-у-дзень у ва ўсякае надвор'е, працуй, а грошы, дык ня пытай... А калі ўжо пад самую вясну падзяруцца боты і кажух і калі ўжо гэта зьмусіць чалавека зьвярнуцца да арэндатара з станоўкім дамаганьнем выплаты запрацаваных грошы, дык арэндатар знойдзе прычыны і зусім звычайныя: „Сёньня няма грошай; прыдзеце іншым разам". А калі прыдуць іншым разам, дык ужо самога арэндатара няма і гэтак у арэндатара бывае што дзень кірмаш.

Робіць гэта арэндатар відаць дзеля таго, каб у яго краме куплялі работнікі. Дык і купляюць людзі на бягучы рахунак, часам зусім ня тое што трэба, абы як вырваць ад арэндатара што-колечы.

І гэткая вось выплата цягнецца да восені. Неяк спатыкаю знаёмага селяніна, які з мяшком ідзе да маёнтку, дзе жыве арэндатар, ды пытаю: што, можа грошы арэндатар плаціць?— Дзе там, адказвае селянін, іду вось яблыкаў узяць, абы не прапалі грошы.

Дык вось як жывуць сяляне вёскі Уклі, якая стаіць каля рыбнага возера.

Алесь Дудар.

### „Жывіце гэтак, як жылі дзяды вашыя".

Гэта ня выдумка і не прыказка, гэта словы самага пружанскага старасты, якія ён сказаў на паседжаньні солтысаў у м. Сельцу Пружанскага павету.

П. староста зьвярнуўся да солтысаў з гэткімі славамі: „скажыце там усім сялянам на вёсках, няхай яны жывуць, як іх дзяды жылі, няхай не мяшаюцца ў палітыку, а пільнуюць толькі свайго плуга і бараны. Мы ім дабра жадаем".

Усім вядома, што нашы дзяды жылі ў нявольніцтве адбываючы прыгон, дык можа п. староста хацеў-бы вырнуць яго ізноў? Разумеецца, што гэтага сяляне ня хочуць, дык і лезуць у палітыку, каб стварыць свой урад ды скончыць аканчальна цень нявольніцтва. Сялянам трэба зямлі школы і іншых палёгкаў... Як жылі бяз гэтага нашыя дзяды можна дагадацца, бо дзякуючы іх змаганьню прыгон яны скінулі.

Калі-б урад стаў сялянскім, дык і запраўды ўвесь цяперашні лад прапаў-бы. Але-ж тагды ня гэтак было-б блага, як было нашым дзядом адбываючы прыгон, дзе чалавек быў толькі працоўнаю жывёлаю.

Сяляне знаюць цану мінуўшчыны і сучаснасьці, дык і разумеецца словы п. старасты ніякага ўражаньня не зрабілі, толькі лішні раз выявілі пагляды ўлады на сялянскую справу.

Полымя.

### Касуюць школьныя дэклярацыі.

(В-ка Зарэчча, Нясьв. пав.).

Яшчэ ў 1926 годзе сяляне в-кі Зарэччы і Маляўшчына падалі школьнаму інспэктару 47 школьных дэклярацыяў на беларускую школу. Дня 1-га траўня 1927 г. у валасьць прыяжджаў школьны інспэктар, а войт Гарадзенскай вол. заклікаў да сябе некаторых сялян. Былі паклiканы ў валасьць самыя цёмныя сяляне з в. Зарэччэ: Ц. Дрыка і П. Рамененка, а з в. Маляўшчыны: П. Шавенку і Ал. Касмовічыка, дзе ім і загадалі падпісаць, як даверaным ад сваіх вёсак, дэклярацыі на польскую школу. Калі сяляне, тлумачучыся неграматнасьцю адказаліся падпісаць дэклярацыі, то ім загадалі толькі прылажыць свае пальцы. Сяляне прылажылі пальцы, але пасьля выявілася, што гэна былі заявы на польскую школу.

Усе сяляне, што падалі дэклярацыі на беларускую школу, не ўпоўнамачывалі неграматных прыкладаць пальцы да заяваў на польскую школу ды і самі няграматныя ня ведалі, што яны робяць, прыкладаючы адпячаткі пальцаў.

Дык парайце нам, куды зьвярнуцца, каб утрымаць дэклярацыі на беларускую школу ў сіле?

М. Пераноско.

Ад Рэдакцыі: Пашліце заяву да куратара, у якой выясьніце ўсю справу, а таксама дамагайцеся беларускай школы.

## НАШАЯ ПОШТА.

Дзеля неаплаты падпіскі ад гэтага нумару спыняем пасылку газэты наступным грам.: Сокалу Міхасю, Гарасімчыку Мікалаю, Бурсэвічу, Хвесеню Сыльвэстру, Мысьліцкаму С., Крэчыку В., Рудкевічу Адаму, Клыбку.

**Алесь Сьмешны:** „Царкоўны хор" не падходзе да друку.

**Панкратовічу Язэпу:** Грошы ад Вас не атрымалі. Пайдзіце на пошту і падайце „рэклямацыю". Газэту пасылаем.

**Малчановічу, П. Алексу, Я. Закінутаму, П. Долі:** Карэспандэнцыі атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Ф. Бураку:** Хлопца, які ня будзе здольны да фізычнае працы з прычыны карлікоўства, найлепш было-б аддаць у цырк. У цырку часам такія патрэбны.

**„Nemo":** Вашая карэспандэнцыя напісана добра, толькі тэма ня зусім адпаведная. Пішыце больш аб сялянскім жыцьці і аб адміністрацыі дзяржаўнай і валаснай.

**Баброўскаму:** Адзін зл. перадалі ў „Саху".

**Янка Селянін:** Ваш верш ня зусім вытрыманы.

**Лявошку Ал.:** Газэту будзем высылаць пасьля атрыманьня падпіскі.

**Капралу:** У Вашай карэспандэнцыі зашмат суседзкіх прыватных адносінаў і затым ня друкуем. Пішыце аб грамадзкіх справах. Ваш верш заслабы.

**П. Ваўку, Ючу Ю., Ромэйку, Трабшу, С. Вольку, В. Севашку:** Пробны нумар паслалі.

**Палачаніну Ст., Шнаркевічу Я., Чыкуну Я., Ал. Сеню, Касьцюшкевічу. Макоўскаму І., Бухаўцу Ц.:** Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Караля Габрыеля, Сьцяпана Палачаніна, Жабінскай Л. — па 2 зл.

## Куток сьмеху і сатыры.

### Злавіўся.

Юзік ня меў ахвоты ісьці ў школу; тэлефануе сам да свайго вучыцеля і, насьлядуючы басавы голас, кажа:

— Прашу пана, Юзік ня прыйдзе сяньня ў школу, бо хворы.

— А хто ля тэлефону? — пытаецца вычыцель.

— А гэта мой тата — адказвае Юзік.

### Ня хоча ўстаць.

— Што чуваць?

— Бяда, галіта... Ні адкуль не магу дабыць грошай.

— І бядуеш?

— А, што-ж маю цешыцца?

— Усе кажуць, што маеш багатага дзядзьку, які сядзіць на грашох?

— Што мне з таго што ён сядзіць, калі ані на часінку ня хоча ўстаць.

### Каторы знае лепей?

Бачыш, мой даражэнькі, я пазнаў сваю жонку тры гады перад шлюбам.

— А я сваю ў тры гады пасьля шлюбу...

## БІРЖА.

Вільня, 31.IV. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . | 8.92—8.94 зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . . | 46.10—46.25 „ |







Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.
Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.